Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 8 Нядзеля, 27 Ліпня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіц... у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная п... злоты 20 гр. За гра... даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.



## Набалеўшае пытаньне.

Час ад часу раздаюцца галасы навет у польскай прэсе аб ненармальнасьці нашага тутэйшага жыцьця. Шпальты газэт крычаць аб бандытызьме, які пагражае прыняць у нашым краі размеры штодзеннага зьявішча.

Рэакцыйная польская прэса па раз выробленым шаблёне прыпісвае падобныя хваравітыя праявы замежным бальшавіцкім інсьпірацыям і толькі... а болей умяркованая прэса тлумачыць нашыя ненармальнасьці наагул аканчальным папсаваньнем польскіх адносін да нацыянальнасьцяў няпольскіх.

Як-бы там ні тлумачылася пэўная хвароба, а сутнасьць і шкоднасьць яе ад адных толькі размоваў ды тлумачэньняў ніколькі зьмяніцца ня можа.

Нам здаецца, што патрэбны рашучыя лякарскія спосабы дзеля аздараўленьня тутэйшага жыцьця і як самы верны спосаб — *разумнае адміністраваньне* на нашых землях.

Адміністрацыя краю павінна спачываць у руках лепшых, разумнейшых мясцовых элемэнтаў, а ня у тых, хто часта-густа нанаехаў сюды з Галіцыі, будучы абсолютна чужым самаму духу краёвага жыцьця.

Нацыянальны антагонізм, раздуты у нас да дзікага шовінізму, у вялікай меры абавязаны сваім істнаваньнем чужацкаму для краю адміністрацыйнаму элемэнту.

Часамі навет самая дробная крыўда, зробленая беларускаму селяніну якім-нібудзь галіцыянінам-паліцыянтам падхапляецца афіцыяльнаю беларускаю рэпрэзэнтацыяю у польскім парлямэнце і з мухі справа разлуваецца у сланя.

Такая ужо тактычная лінія павядзеньня нашага беларускага пасольскага клюбу, адразу, з першых дзён свайго нараджэньня, незразумеўшага ясна, што задачаю яго павінна было стаць ня шуканьне «на вярбе грушаў», а здабываньне тых рэальных магчымасьцяў, якія Конституцыяю Польскае Рэспублікі гарантуюцца.

Пасольскі Беларускі клюб ня прызваны рашаць беларускую проблему у яе агульным размеры. Ён меў перад сабою, у сілу усіх чыста акалічнасьцяў, простае саусім заданьне: нарыхтаваць нармальнае, законнае разьвіцьцё беларускага жыцьця, ува усіх яго відах, у межах польскае дзяржаўнасьці, бараніць інтарэсы беларускага насяленьня ува усім агуле іхняга аб'ёму, а не пад тым ці іншым кутом партыйнага гледжаньня.

Калі супрацоўніцтва з урадовымі польскімі кругамі, з прычыны палітычнае афарбоўкі, для беларускіх пасloў было немагчыма, дык што-ж перашкаджала ім пашукаць разумнага контакту з тутэйшымі дэмократычнымі элемэнтамі польскага грамадзянства, з жыцьцём краю арганічна зьвязанага.

Нядаўная яшчэ спроба польска-беларускага таварыства у Вільні кончылася гэткаю няўдачаю, што і зразумець немагчыма: ці тут ігралі забойчую ролю праграмныя нязгоднасьці нашых і польскіх кругоў, ці скрытыя, невядомыя публічнай опініі, закулісныя уплывы?

Ось, разваліласе усё, непасьпеўшы, як мае быць аформіцца, дый годзі.

А раз справа скіравалася на шлях ваяўнічага нацыяналізму, дык тут барацьба становіцца няроўнаю: дзесяток беларускіх парлямэнтарыяў — нішто у параўнаньні з цэлаю арміяю усіх відаў нацыяналістычна настроенага польскага чынавенства, разбаўленага у нас закваскаю самага найгоршага з польскіх нацыяналізмаў — закваскаю галіцыйскага нацыяналізму.

Выхаванае у пэрыяд польскае няволі, у атмосфэры аўстрыяцкага жонгліраваньня нацыянальнасьцямі у монархіі Габсбургаў, чынавенства польскае галіцыйскага паходжаньня ня можа адразу перарадзіцца.

Патрэбы беларуса, яго трагэдыю нядаўняга нацыянальнага рабства куды хутчэй можа зразумець самы заклятый навет клясавы вораг беларускага селяніна, але *тутэйшы паляк*, над вухам якога аднолькава пасьвіставаў маскоўскі бізун у часы супольнай няволі нацыянальнай.

І як гэтага ня можа зразумець Польскі Урад, як ён ня можа дасюль на горкай практыцы перакланацца, што пачуцьцё прыналежнасьці да польскага дзяржаўнага арганізму ня можна вырасьціць у душах беларускіх масаў паліцэйскімі мерамі галіцыйскага гатунку!

Трэба даць магчымасьць беларускаму сялянству не ваяваць з нацыяналістамі школьнымі інспэктарамі за гэткую жыцьцёва неабходную рэч, як свая родная, беларуская школа.

Трэба беларусу даць магчымасьць ня дрыжаць перад самым шыльдам паліцэйскага вучастка, ці мундзерам дзяржаўнае паліцыі, а бачыць у кожным дзяржаўным вураднікy, перш за усё, вернага слугу законаў, чэснага і справядлівага. Трэба даць насяленьню гэткага адміністратара з гары аж да самага нізу, які не патрэбуе вучыцца, каб разумець яго патрэбы.

Трэба якнайхутчэй завясьці прадбачаны Конституцыяй Дзяржавы гэткі самаўрад, у якім беларусы занялі-б належнае ім па праву месца.

Каму, як ня, зруйнаванаму ваеннымі ды окупацыйнымі парадкамі, беларускаму селяніну пара ужо стаць на творчы шлях нармальнага, спакойнага жыцьця і, заўсёды мілае яму, прадукцыйнае працы?

А у гэтым помач яму магчыма толькі з боку тых жыхароў краю, якія цяпер толькі належаць да пануючай нацыянальнасьці, а ўчора яшчэ разам аплаквалі сваю долю пад дзікім прэсам наезьніцкае улады, што роўна усіх мясцовых жыхароў умела «тащить и не пущать».

Хто умеў разам вытрываць найгоршыя часы нацыянальнага гнёту, той заўсёды лепей можа зразумець патрэбу супольнае волі.

І вось дзеля гэтага, разьвязка пытаньня аб аздараўленьні тутэйшых нацыянальных адносін павінна пачацца, у першую чаргу, з ачышчэньня краёвае адміністрацыі ад усіх чыста нятутэйшых яе элемэнтаў ды запаўненьня апарожненых месцаў лепшымі мясцовымі людзьмі, якія-б маглі у сваёй працы побач стаць і з пэўнымі беларускімі элемэнтамі, каб супольнымі сіламі выбрысьці з балота сягоньняшніх дзён.

Ліквідацыя бандытызму можа быць зроблена толькі сіламі самога тутэйшага насяленьня, а дзеля гэтага у рукі яго павінны быць адданы усе спосабы барацьбы з прыкраю балячкаю, вырасшаю на попелішчах вайны.

І чым хутчэй гэта адбудзецца, тым хутчэй разьляцяцца хмары нацыянальнага непаразуменьня, тым хутчэй надыйдзе пара дружнага, вольнага жыцьця.

Да разьвязкі набалеўшага пытаньня павінны прыступіць усе мясцовыя сілы, якім даволі ужо абрыдла чуць пра тое, што у хаце іхняй ня усё у парадку.

---

## Эканамічны крызыс у Польшчы.

Уся бяда Польшы ў тым, што з боку эканамічнага яна занадта цесна зьвязана з Нямеччынай, гандлёвы зварот з якой перавышае 50% агульнага гандлёвага балянсу Польшчы. Дзеля гэтага ўсе зьмены ў эканамічным палажэньні Нямеччыны зараз-жа адбіваюцца на Польшчы. Калі ў Нямеччыне, з окупацыяй французамі Рурскага прамысловага раёну, пачалося катастрафічнае зьніжэньне нямецкай маркі, то аднача́сна пачалося зьніжэньне і маркі польскай. Да пачатку мінулага году Нямеччына была самай таннай старонай у сьвеце, куды адусюль наяжджалі чужаземцы, скупляючы там каштоўныя рэчы і нярухомасьці; з прычыны гэтага нямецкі ўрад абкладаў чужаземцаў умысна высокімі кардоннымі падаткамі. У гэты час і Польшча была ў аналёгічным палажэньні.

Але ў часе зьніжэньня валюты ў Нямеччыне і Польшчы, аднача́сна расьлі цэны і паваліліваліся каштоўнасьць работніцкай працы. Гэткім чынам, калі на 1 студня с. г. ў Нямеччыне, а таксама і ў Польшчы п. Грабскім, спынена было зьніжэньне валюты, то цэны на тавары і каштоўнасьць работніцкай працы сталі вышэйшымі, як у іншых краёх і як да вайны, з тым, што ў Польшчы яны сталі ўдвая вышэй, як у Нямеччыне. Гэта пацягнула за сабой зьявішча адваротнае папярэдняму: чужаземцы разам пакідаюць Нямеччыну, за імі ўсьлед нямецкія замоўнікі, вывозячы з Нямеччыны капіталы; нямецкі ўрад выступае супроць гэтага з адпаведнымі законамі. У Польшчы ў гэты час робіцца тое самае, толькі менш выразна. У сучасны момант, калі ў Польшчы пражыцьцё каштуе шмат даражэй, як у іншых краёх, польскія замоўнікі імкнуцца заграніцу, а ўрад робіць гэтаму перашкоды, адной з якіх зьяўляецца высокасьць аплаты заграцічных пашпартоў і візаў (аж да 200 даляраў).

Апынуўшыся ў гэткім палажэньні, нямецкія капіталісты супольна з урадам пачалі барацьбу з дарагоўляй. А як зрабіць гэтага простым зьні-

